Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 8 (60) | Вільня, 26-га красавіка 1935 г. | Год 3-ці.

## Сучаснасьць і будучыня Беларусі.

I.

Калі прыглядзімся да таго, што ў сучасны мамэнт творыцца на сьвеце, як учарашнія ворагі становяцца саюзьнікамі й наадварот—нядаўнія саюзьнікі пераходзяць у варожы лагер, як офіцыяльныя прадстаўнікі й ідэолёгі камунізму на банкетах падымаюць чарку за здароўе і ў чэсьць каралёў, а прадстаўнікі буржуазіі ды зацятыя ворагі камунізму пьюць за здароўе бальшавіцкіх камісараў,—мімаволі прыходзім да вываду, што ў міжнародных зносінах няма нічога сталога. Сёньня, так як і калісь, пішуцца дагаворы, ўмовы, пакты, а на заўтра... калі будзе адпаведная хвіліна й пажаданыя варункі, ўсё рассыпаецца: умовы, дагаворы, пакты застаюцца нікому (акром хіба гісторыка) непатрэбнымі шкумацінамі. Тады разрахунак паміж нядаўнімі саюзьнікамі адбываецца ўжо не на падставе таго ці іншага парагграфу ўмовы або дагавору, а толькі й выключна на падставе азначанага тоннажу выпушчаных пушачных снарадаў, скінутых бомбаў з удушлівымі газамі ды іншых прыкладаў сьмерці й калецтва.

Трэба сказаць, што ў-ва ўсім гэным сумным малюнку жорсткае сапраўднасьці кідаецца ў вочы адна рэч: незважаючы на тое, што палітычная рэальнасьць залежна толькі ў нязначнай меры ад успомненых дагавораў і пактаў, што ўсе пратоколы й пакты зьяўляюцца, як быццам, вынікам толькі й выключна ўкладу сілаў і інтарэсаў паасобных дзяржаваў у дадзеным гістарычным перыядзе, аднак **усе яны залежаць перадусім і бязумоўна ад географічных дзейнікаў.**

Вось дзеля чаго саюзы, вызначаныя географічным палажэньнем дзяржаваў, так зв. саюзы натуральныя, калі ў пэўным мамэнце й распадаюцца, дык з бегам часу часта мімаволі старон ізноў аднаўляюцца. Такі ўжо закон прыроды.

Географічнае палажэньне дзяржаваў штучна зьмяніць нельга і дзеля гэтага трэба старацца, каб вытвараныя некарыстныя гістарычныя абставіны паміж натуральна географічна-злучанымі народамі адыходзілі на другі плян, каб дарма не разбураць таго, што створана самою прыродою.

Вось дзеля чаго, гаворачы аб будучыні Беларусі, мы не павінны кідаць дэмагогічных лёзунгаў, а паважна, сур'ёзна й усебакова разгледзіць перш географічнае палажэньне Беларусі, пазнаць яе геолёгічную структуру, а пасьля прааналізаваць яе гісторыю ды сучаснае гаспадарча-эканамічнае й палітычнае яе палажэньне. Бо-ж толькі ўзяўшы пад увагу ўсе тут успомненыя варункі, мы здолеем больш-менш правільна нашкіцаваць сабе той шлях, ідучы па катораму ўдасца нам зрэалізаваць тыя натуральныя імкненьні й жаданьні, якія ўжо добра ўяўляе сабе беларускі інтэлігент, ды падсьвядома адчуваюць беларускія масы.

Самы паверхоўны агляд сучаснай карты Эўропы і Азіі паказвае нам, каго географічнае палажэньне Беларусі вызначала нашымі натуральнымі саюзьнікамі, а пабежны агляд міжнародных зносінаў павінен змусіць нас зрабіць найбольшы высілак свае волі й энергіі, каб гэты натуральны саюз даў для нашага народу і бацькаўшчыны як найбольш карысьці.

Пераходзім дзеля гэтага да разгляду перш-на-перш географіі Беларусі.

II.

### Географічнае палажэньне Беларусі.

Этнографічны абшар Беларусі вызначаўся фактычна працаю цэлых пакаленьняў—гісторыяй Беларускага Народу, каторы, дзякуючы сваёй экспансыўнай сіле ды пэўнай культурнай пераваге над элемэнтам літоўскім, займаў абшары што раз большыя і большыя аж урэшчэ ня толькі агарнуў, але на'т пашырыўся за межы пэўнае географічнае адзінкі, агранічанае басэйнам верхняга Дняпра аж да ўсьця Прыпеці ўключна.

У гэтым краі, галоўнымі восямі каторага зьяўляюцца: на ўсходзе—Дняпро, а на паўдні — Прыпець, знаходзіцца вадараздзел усіх рэкаў, сплываючых у Балтыцкае й Чорнае мора.

Дняпро з яго даплывамі Друцяй і Бярэзінай вельмі блізка падыходзіць на гэтым даволі нізкім вадараздзеле да Дзьвіны з яе даплывамі: Дзісной і Ушай, дзякуючы чаму без вялікшых натуральных перашкодаў магчыма было палучыць каналам Бярэзіну з Ушай. Гэтае злучэньне, як бачым, падыктавана было самою прыродаю.

З другога боку Прыпець з Пінаю вельмі блізка падыходзіць да Бугу з Мухаўцом, дзякуючы чаму злучаецца праз Каралеўскі канал з басэйнам Віслы на захадзе, а праз зблізкэньне левага свайго даплыву Ясёлды да Шчары, лучыцца каналам Агінскага з Нёманам на поўначы.

Як бачым з вышэйсказанага, Беларусь мае на сваім галоўным вадараздзеле аж тры галоўныя, самастойныя рэкі Балтыцкага мора: Нёман, Віслу й Дзьвіну з галоўнаю і самастойнаю ракою Чорнага мора —Дняпром.

Трэба адначасна тут зазначыць,што натуральных вузлоў, падобных да вышапісаных, на Беларусі ёсьць шмат болей, аднак дасюль яны яшчэ ня выкарыстаны і чакаюць на працу чалавека. Найважнейшыя з іх ляжаць на лініях: Орша—Віцебск (верхняя Вільля, верхняя Бярэзіна, верхні Нёман, верхняя Птыч і г. д).

Гэткі характэрыстычны рачны басэйн—веер, заходні бок каторага дасягае аж Бэрасьця над Бугам, а ўсходні – верхнедняпроўскага ўзвышша ды лініі ракі Дзясны, вызначае вельмі важны гандлёвы камунікацыйна - транспартны шлях, які ўпадае ў так званую Смаленскую браму, берагі каторай твораць верхні Дняпро і верхняя Дзьвіна, якія плывуць амаль што роўналежна з ўсходу паміж $54^0$ і $56^0$ пн. ш.

Каля Оршы Дняпро заварочвае на поўдзень, а Дзьвіна на захад ад Віцебска бярэ кірунак на паўночны-захад. Такім чынам Смаленская Брама пашыраецца, абыймаючы ўспомненымі рэкамі пэўны абшар і даючы яму **заходні нахіл.**

Гэты вось абшар разам з краінамі, паложанымі на верхніх даплывах Дзьвіны, Вільлі, Нёмана й Мухаўца,—краінамі вузлавых злучэньняў рэк Балтыцкага й Чорнага мора, называецца Беларусяй.

Так азначаная тэрыторыя Беларусі,пакрываючаяся з беларускім этнографічным абшарам, становіць самастойную географічную адзінку з паверхняй каля 280,000 км² і паказвае даволі значны нахіл на захад да Балтыцкага мора праз яго тры галоўныя ракі: Нёман, Віслу й Дзьвіну, якія плывуць, дзякуючы фізычна-географічнаму працэсу ледавіковага пэрыяду, на захад і поўнач.

Калі пагледзім цяпер на географічнае палажэньне суседняй з Беларусяй Польшчы, то заўважым, што пачаўшы ад паўдня—ад Карпатаў аж па Балтыцкае мора—польскія землі паложаны пэўнымі характэрнымі паясамі ўзвышшаў і далінаў, каторыя сьціскаюцца на захадзе і пашыраюцца на ўсходзе, творачы вялікую дэльту.

Восям сымэтрыі гэнае дэльты ёсьць пояс абшырных далінаў, або так зв. „цэнтральная баразна“, сярэдзіною каторае плыве на тэрыторыі Беларусі Прыпець. Абшар, паложаны паміж усходняй часткай гэнае баразны г. зн. — Палесьсем ад паўдня, а шырокім поясам прыбалтыцкіх далінаў ад поўначы,— становіць усходні бок успомненае дэльты. Гэты бок, на каторым паложана „Смаленская Брама“, яшчэ да сёньняшняга дня спаўняе вельмі важную ролю памосту паміж усходам і захадам, а адначасна служыць парогам паміж далінаю Палесься і далінаю сярэдняе Дзьвіны і Нёмана.

Як ведама, гэты адвечны шлях пераходу народаў,—з аднаго боку шлях гандлёвы, з другога—шлях ваенных паходаў польскага аружжа на Маскву, а маскоўскага — на Польшу

Гэтым-жа самым шляхам маршаравала некалі армія Напалеона, на гэтым-жа шляху адбываліся жорсткія й крывавыя баі падчас апошняй вайны.

Ужо ў старадаўныя часы стратэгічныя й гандлёвыя варункі змусілі пабудаваць тут крэпастныя гарады — фарты Смаленскае Брамы: Оршу й Смаленск над Дняпром, Полацк і Віцебск над Дзьвіною.

Польшча заўсёды змагалася с Масквою за гэтыя гарады, бо добра разумела, што яны зьяўляюцца з аднаго боку заркаю бясьпечнасьці ўсходняе граніцы, а з другога боку праз іх адчынялася вялікая магчымасьць пашырэньня культурнага й гаспадарчага ўплыву Польшчы на ўсходнія землі.

Таму нічога дзіўнага, што Беларусы, жывучы на гэтым шляху бязупынных ваенных паходаў, зьбяднелі і матэр'яльна й духова. Культурна Беларусы шмат адсталі ад другіх народаў і ў сучасны мамэнт патрэбны вялізарныя высілкі ды ўпорная позытыўная праца, каб Беларусы маглі падняцца да належнага роўня ў эканамічным, культурна-нацыянальным і палітычным жыцьці.

# Пара быць дзейнымі.

Пачынаючы з надходзячага траўня месяца „Родны Край" мае выходзіць чатыры разы ў месяц акуратна.

Абавязак нашых чытатоў — *быць акуратнымі падпісчыкамі,* а некаторых з іх—быць і корэспондэнтамі з месцаў.

Паміж газэтаю і чытачамі яе павінна быць цесная сувязь. Тое, што было дасюль у гэтым сэнсе, павінна быць узмоцнена. Бо ўсім нам даўно дало жыцьцё зразумець тую простую праўду, што кожны народ—сам каваль свае долі.

Найбольшыя натугі нашае інтэлігенцыі будуць дарэмнымі, калі соннасьць, спанталычанасьць, індывідуальны эгоізм і таптаньне ў балоце сваіх дробных штодзенных інтарэсаў ня ўступіць месца актыўнасьці сярод самых народных масаў.

Нядаўна — 25 сакавіка — мы сьвяткавалі дзень гістарычнага ў нашым нацыянальным жыцьці акту. Аднак, датуль гэты акт будзе прыгожаю толькі кветкаю ў нашай многапакутнай гісторыі, пакуль у найшырэйшых масах народу не адбудзецца зразуменьне вельмі простае рэчы:

Актам 25. III. 1918 г. беларуская інтэлігенцыя абвясьціла незалежнасьць свайго краю і народу, але ні край, ні народ *не гатоў быў* да гэтае незалежнасьці. Крыху раней актам 9. III. 1918 г. інтэлігенцыя абвясьціла свайму народу сваю *народную* рэспубліку. Нажаль, *народ* не гатоў, быў да свае (*бо народнае-ж*!) рэспублікі.

Значыцца, адных шалёных натугаў і пярunістых узьлётаў інтэлігенцыі мала. Трэба, каб нешта для лепшае свае долі рабіў і сам народ.

Што-ж ён дасюль рабіў у гэтым кірунку?

Тое-сёе, праўда, рабіў. Але пераважна,—чакаў, што інтэлігенцыя яго дакажа нейкіх цудаў, так вось проста, як на талерачцы, паднясе яму, бедненькаму, лепшую долю яго.

Гэткі пагляд народных масаў на сваю ўласную справу, па меншай меры, цёмны і памылковы.

Чытаць газэту, калі яна выдаецца ў Вільні беларускаю інтэлігенцыяй, вясковец-беларус можа, але выпісаць яе, прыстыдзіць суседа, каб зрабіў тое-ж самае, ня кожны хоча.

Гэткая тыповая праява малакультурнасьці не павінна мець месца ў нашым жыцьці, калі мы запраўды хочам „людзьмі звацца", калі лёс свой хочам выкаваць лепшым за цяперашні.

Іншы скажа: „Што мне газэты? Вун саган дзіравы, новы цяжка купіць"...

Праўда, саган — рэч неабходная, каб зварыць у ім сваю бульбачку..

Але-ж прыходзіцца выбіраць: або векавечна быць бульбаедам і думаць толькі пра саган, або ахвярна класьці і сваю цэгліну ў фундамант вышэйшых нацыянальных імкненьняў?

Ні нашае прывычнае стагнаньне аб беднасьці, ні нараканьне на праклятьі крызыс, не дае ніякага моральнага права беларускаму чытачу адмовіцца ад падпіскі на сваю газэту.

Ці-ж украінскія сяляне ў Галіцыі багацейшыя за нашых сялян? А яны-ж маюць ужо некалькі дзесяткоў гадоў паважную штодзенную газэту „Діло".

Хай кожны чытач аблічыць, колькі ў год расходуе на... гарэлку, ці нават на табаку, а колькі на газэты?

Ці-ж не зачырванеецца ад лёгкага сораму яго здаровы сялянскі твар?

Мала верыць у лепшую будучыню. Трэба дзейнічаць.

Мала чытаць газэту, — на яе *абавязкава трэба падпісвацца.*

Трэба зразумець, што, апрача чыста матар'яльнага значэньня падпіскі для выдавецтва, кожны соты падпісчык нясе з сваёю *лептаю* тую новую веру і бадзёрнасьць у рады пісьменьнікаў, якая стварае сярод іх пэўнасьць у недарэмнасьці іх творчых парываў, бо на парывы гэтыя ёсьць сільны водгук у масах, якія вось ужо ўмеюць быць актыўнымі пры кожным добрым пачынаньні.

Дык годзі пасыўна выглядаць на Божы сьвет з свайго ўбогага ваконца!

Пара быць дзейнымі ўчасьнікамі ў жыцьці свае прэсы!

---

Прыймаючы пад увагу апісанае географічнае палажэньне Беларусі, ды ўглядаючыся ў кірунак натуральных водных шляхоў, што празэваюць тэрыторыю Беларусі, можна зрабіць вывад, што Польшча павінна быць натуральнай саюзьніцай Беларусі, на што паказвае географічнае палажэньне абедзьвюх краін, а таксама іх гаспадарчыя варункі ды геолёгічная структура.

*Эра.*

*(Працяг будзе).*

---

# Танную кніжку на вёску!

У прошлым нумары „Роднага Краю" была пададзена абвестка беларускіх віленскіх кнігарняў аб адкрыцьці „Месяца Таннай Беларускай Кнігі". Беларускія кнігарні, якіх у Вільні ёсьць аж тры, *першы раз* зарганізавалі такога роду *прапаганду беларускай кнігі.* Звычай ладжаньня таннае прадажы кніг уведзены ў іншых кнігарнях здаўна і зьяўляецца нармальным зьявішчам. Кнігарні злучаюцца й абвяшчаюць разам, дзеля супольных інтэрэсаў, „Тыдзень Таннае Кнігі". Зразумела, што „танны *тыдзень*", які практыкуецца, напрыклад, польскімі кнігарнямі, *немагчымы* ў адносінах да нашага кнігарскага рынку. Кніга беларуская, выданьні беларускія разьлічаны перадусім на нашу вёску. Пакуль наш селянін даведаецца праз газэты (а газэт штодзенных у нас тымчасам няма!) аб „танным тыдні", пакуль „сьпішацца" з кнігарнямі, то пройдзе ня толькі тыдзень часу, але й добрых два. Нашы кнігарні, відаць, належна зразумелі нашу кнігарскую сытуацыю і абвесьцілі *„месяц"* таннай беларускай кнігі. Гэта значыць, што *у працягу месяца беларускія кніжкі можна будзе купляць па вельмі таннай цане.* З увагі на вышэй сказанае, трэба спадзявацца, што і па ўплыве месяца таннай кнігі можна будзе праз пэўны час атрымліваць „танныя заказы". Інакш кажучы, *танная беларуская кніжка будзе прадавацца больш чым месяц.*

Можа насунуцца пытаньне, чаму арганізуецца такая кнігарская акцыя і якое яна мае значэньне. Калі мы глянем на польскія кнігарні і выдавецтвы, то пабачым перадусім *матэр'яльную мэту.* Эканамічны крызіс абніжае консумпцыйную сілу жыхарства. Кожны абмяжоўвае свае выдаткі да мінімума, купляючы тавары першае неабходнасьці. Зразумела, што ў першую чаргу вычырківаюцца з буджэту жыхара культурныя выдаткі. Калі сярод працоўнай інтэлігенцыі спаткаем на кожным кроку людзей, якія раз на поўгода бываюць у кіне або ў тэатры, то што казаць аб куплі імі кніжкі, а тым-болей нашым селянінам. Гэткі стан адбіваецца вельмі балюча на кнігарнях і выдавецтвах, якія маюць дачыненьне з вельмі звужаным рынкам. Таму вось у першую чаргу і арганізуецца танная кніжка. З другога боку кнігарні вядучы танную продаж, маюць на мэце падняцьце зацікаўленьня шырэйшых масаў насельніцтва кніжкай і здабыцьцё сабе, такім чынам, кліентаў. Кнігарні бачаць, як *культурны жыхар усё больш ідзе ў бібліятэкі,* дзе танна можа чытаць.

Калі з таннай продажы карыстаюць і кнігарні, то *найбольш карыстае той, хто купляе кнігу.*

У нас, Беларусаў, „танны месяц" павінен мець іншую мэту й значэньне. Ясна, што і нашы кнігарні пры пануючым крызісе ледзь дыхаюць і таму змушаны да арганізацыі „таннага месяца" ў вялікай меры матэр'яльнымі прычынамі. Аднак у нас з усёй сьвядомасьцю *павінен быць заакцэнтаваны ідэйна — адраджэнскі мамэнт* продажы таннае беларускае кнігі.

Народ наш на працягу вякоў быў пазбаўлены асьветы. Кніга

---

**М. Салтыкоў - Шчэдрын.**

# ХРЫСТОВА НОЧ.

(Паданьне).

(Пераклад з расейскага К. М.)

Раўніна яшчэ камянее, але сярод глыбокага безгалосься ночы пад сьнегавою посьцілкаю ўжо чуецца гоман прабуджаных ручаёў. У ярох і лагчынах гэты гоман набірае разьмераў глухога гулу і асьцерагае падарожнага, што дарога ў гэтым месцы скопана зажорамі. Але лес яшчэ маўчыць, прыцісьнены інеем, быццам казачны асілак жалезнаю шапкаю. Цёмнае неба ўсё ўсыпана зорамі, якія льюць на зямлю халоднае і дрыжачае сьвятло. У ашуканчым яго мігаценьні мільгаюць жалобныя плямкі вёсак, затануўшых у гурбах. Пячатка сірочасьці, закінутасьці і ўбогасьці лягла і на застылую раўніну, і на маўклівую дарогу. Усё скована, бязраднае і безгалосае, быццам задушанае нявідочнаю, але грознаю няволяю.

Але вось у адным канцы раўніны разьляглося гудзеньне паўночнага звону, насустрэч яму, з процілежнага канца, праляцела другое, за ім — трэцяе, чацьвёртае. На цёмным фоне ночы выразаліся бліскучыя шпілі цэркваў і вакольнасьць раптам ажыла. Па дарозе пацягнуліся рады вясковага народу. Наперадзе ішлі людзі шэрыя, стомленыя жыцьцём і галітою, людзі з патузанымі сэрцамі і пахілымі ўніз галовамі. Яны нясьлі ў царкву сваю пакорнасьць і свае ўздыхненьні; гэта было ўсё, што яны маглі даць уваскросшаму Богу. За імі, здалёк, ішлі ў сьвяточных вопратках вясковыя багатыры, кулакі ды іншыя ўладары вёскі, яны весела гутарылі між сабою і нясьлі ў царкву, свае лятуценьні аб надыходзіўшай тыднёвай радасьці. Але хутка народныя натаўпы патанулі ў глыбі дарогі; замёр у паветры апошні ўдар паклічнага звону, і ўсё ізноў урачыста змоўкла.

Глыбокая тайна пачулася ў гэтым раптоўным перарыве пачатага руху, — як быццам за надыйшоўшым маўчаньнем надходзіў цуд, што павінен надыхнуць жыцьцё і адраджэньне. І якраз: не пасьпеў яшчэ зачырванець усход, як жаданы цуд адбыўся. Уваскрос зганьбованы і расьпяты Бог! Уваскрос Бог, да Якога адвеку зьбядованыя і збалелыя сэрцы гукаюць: „Госпадзе, пасьпяшай!"

Уваскрос Бог і напоўніў Сабою сусьвет. Шырокі сьцеп устаў насустрэчу Яму ўсімі сваімі сьнягамі і завеямі. За сьцепам пацягнуўся магутны лес і таксама пачуў прыбліжэньне Уваскросшага. Паднялі здаравенныя елкі да неба касматыя лапы; заскрыпелі вярхамі стогадовыя хвоі; загулі яры і рэкі; выбеглі з нораў і бярлогаў зьвяры, вылецелі птушкі з гнёздаў; усе пачулі, што з глыбіні ідзе нешта сьветлае, сільнае, што выпушчае сьвятло і цяплыню, і ўсе гукалі: „Госпадзе! Ці-ж Ты?"

Госпад багаславіў зямлю і воды, зьвяры і птушкі, і сказаў ім:

— Мір вам! Я прынёс вам вясну, цяплыню і сьвятло. Я зьніму з рэкаў ледзяныя кайданы, апрану сьцеп зялёнаю коўдраю, напоўню лес пяяньнем і пахнючасьцяй. Я накармлю і напаю птушкі і зьвяры і напоўню прыроду радасьцю. Хай законы яе будуць лёгкімі для вас; хай яна для кожнае травінкі, для кожнае ледзь заметнага крыласьціка накрэсьліць кола, у якім яны застануцца вернымі прыроджанаму назначэньню. Вы не падсудныя, бо выпаўняеце толькі тое, што вам дана ад пачатку вякоў. Чалавек вядзе бесперастанную барацьбу з прыродаю, пранікаючы ў яе тайны і не прадбачачы канца сваёй працы. Яму неабходны гэтыя тайны, таму што яны складаюць няўхільны варунак яго дабрабыту і ўдачы. Але прырода сама сабе радзіць, і ў гэтым яе перавага. Нічога з таго, што чалавек крыха-па-крысе пранікае ў яе нетры — ён падпарадкоўвае сабе толькі атомы, а прырода і далей стаіць сабе перад ім у сваёй першабытнай няпрыступнасьці і пераважае яго сваёю магутнасьцяй. Мір вам, сьцяпы і лясы, зьвяры і апераныя! і хай угрэюць і ажывяць вас праменьні Майго Уваскрасеньня!

Багаславіўшы прыроду, Уваскросшы зьвярнуўся да людзей. Першымі выйшлі насустрэчу Яму людзі плачу, сагнутыя пад бярэмем працы і загубленыя галітою. І калі Ён сказаў ім: „мір вам!" — дык яны напоўнілі паветра моцным плачам і ўпалі ніцьма, маўкліва просячы аб збаўленьні.

І сэрца Уваскросшага ізноў затуманілася тым вялікім і сьмяротным жалем, якім яно да берагоў перапоўнілася ў Гэфсіманскім садзе, чакаючы чашы, Яму нарыхтованае. Усё гэтае шматпакутнае ваяцтва, якое ўпала перад Ім, нясло цяжар жыцьця ў імя Яго; усе яны першыя прыхілілі вуха да Яго слова і назаўсёды занатавалі яго ў сэрцах сваіх. Усіх іх Ён бачыў з вышыняў Голгофы, як яны мітусіліся здалёк, ахіненыя сецямі рабства, і ўсіх Ён багаславіў, адбываючы Свой крыжавы шлях, усім дакляраваў вызваленьне. І ўсе яны з таго часу хочуць Яго і рвуцца да Яго. Усе з бязумоўнаю вераю выцягваюць да Яго рукі: „Госпадзе! Ці-ж Ты?".

— Але, гэта Я, — сказаў Ён ім. — Я разарваў ланцугі сьмерці, каб прыйсьці да вас, слугі Мае верныя, супакутнічкі Мае дарагія! Я заўсёды і на ўсякім месцы з вамі і ўсюды, дзе праліта вашая кроў, — тут-жа праліта і Мая кроў разам з Вашаю. Вы чыстымі сэрцамі бяз умоваў паверылі ў Мяне таму толькі, што пропаведзь Мая мае ў сабе праўду, без якое сусьвет уяўляе з сябе памешчаньне згубы і пекла лютае. Любі Бога і любі бліжняга, як самога сябе, — вось гэтая праўда, ува ўсёй яе яснасьці і прастаце, і яна найбольш даступная не багасловам і кніжнікам, а якраз вам, простым і змучаным сэрцам. Вы верыце ў гэтую праўду і чакаеце яе прыходу. Летам, пад праменьнямі знойнага сонца, за сахою вы служыце ёй; зімою, доўгімі вечарамі, пры сьвятле дымнае лучыны, за ўбогаю вячэраю, вы вучыце, аб ёй дзяцей вашых. Як ні кароткая яна сама па сабе, але для вас у ёй замыкаецца ўвесь сэнс жыцьця і ніколі невысыхальная крыніца новых і новых гутарак. З гэтаю праўдаю вы ўстаеце раніцаю, з ёю кладзецеся на сон надходны і яе-ж прыносіце на аўтар Мой у постаці сьлёз і ўздыхненьняў, якія саладзей за пах кадзільны растапляюць сэрца Маё. Дык ведайце-ж: хоць нікто не прадбачыць наперад, калі выб'е вашая гадзіна, але яна ўжо

была схавана ад яго пад сямю пячацямі. Кніга была прывілеем „вышэйшых клясаў“. Цяпер—што іншае. Кніга пайшла ў народ. *У беларусоў* кніга прытым *спаўняе вялікую гістарычна—ўсьведамляючую ролю.* Кніга ўсьведамляе нашыя масы, падгатоўвае іх да тварэньня свайго жыцьця. Вось таму і „месяц таннае беларускае кнігі“ зьяўляецца вельмі важным для нас.

Побач з гэтым *„месяц таннае кнігі“ ўзгадуе нашае сялянства,* узгадуе ў кірунку грамадзкага вырабленьня. Бо-ж, паміма беднасьці, якая бязумоўна апраўдывае ў вялікай меры нашу культурную адсталасьць, у нас глыбака караніцца жаданьне атрымаць нешта „на чужбінку“ (дарма). У гэтым нямала вінавата наша папярэдняя прэса, якая прывучыла сялян атрымліваць бясплатна газэту. А тыя, хто атрымлівае нешта дарма, часта ня ведаюць, колькі самаахвярнасьці, нэрваў, крывавага поту ўложана ў кожную друкаваную кніжку. Мы яшчэ доўга будзем ісьці „крывавым шляхам“ у нашай выдавецкай працы, бо няма яшчэ ў нас сільна разьвітага пачуцьця грамадзкае салідарнасьці і нацыянальнае „спайкі“. Выпісываючы кніжку, селянін прывучыцца сам сабе памагаць, бо грош, аддадзены на кнігу, пойдзе на выданьне іншых кніг.

Зразумела, ўсё было-б добра, каб ня было пэўных засьцярог, якія „кніжную“ акцыю прадстаўляюць у іншым сьвятле. Ёсьць консумэнт. Ёсьць рынак. Польская кніжка наагул нашым сялянствам ня купляецца. *Беларускі селянін аднак,* ня купляючы польскае кнігі, мала купляе і *беларускую кнігу.* Чаму гэта так? Шырокая распродаж календароў (нават бяз рэклямы!) сьведчыць аб культурнай актыўнасьці нашага сялянства. Галоўная прычына ляжыць ня толькі ў сялянстве, але і ў цэнтры. Дзе беларуская кніга і якая яна? Трэба з сумам сьцьвердзіць, што выданьне бел. кніг за апошнія гады значна паменшылася. За год выходзіць дзьве-тры кнігі. Выдавецкія магчымасьці часта марнуюцца на выдаваньні розных брашурак і іншых „выданьняў“, як „Chryścijanskaja Dumka“, „Да злучэньня!“ і т. п. Добрай кнігі для вёскі амаль няма!

Апрача гэтага і тыя *кнігі,* якія выходзяць, *не рэклямуюцца.* Вёска аб іх выхадзе амаль і ня ведае. Вось чаму нават тое багацьце, якое мы маем, знаходзіцца часта ў занядбаньні й забыцьці.

„Месяц таннае беларускае кнігі“ бязумоўна трэба рэклямаваць, чаго мы, нажаль, ня бачым. Ня выдадзены нават каталёг з зазначэньнем папярэдняе цаны й цаны, зьніжанай на месяц. Няма артыкулаў у газэтах, дзе-б радзілася, якія кніжкі найбольш карысныя сялянству і т. д.

Можна цешыцца толькі адным, што „месяц“ заведзены ўжо ў беларускіх кнігарнях. На будучыню, бязумоўна, трэба „месяц“ лепш арганізоўваць і рэклямаваць. „Укладкі“ ў бел. газэты пашыраць па ўсей Зах. Беларусі—цэньнік, заказы значна павялічацца і сялянства наша атрымае добрую і танную кніжку. Будзем спадзявацца...

А тымчасам—*усё наша сялянства павінна скарыстацць з „месяца таннай бел. кнігі“*, каб „сонца навукі“ заглянула пад кожную страху.

Праз асьвету — да лепшага жыцьця!

*Д.*

# Злая воля.

З пасярод многіх балячак праваслаўнага жыцьця можа найбольшай была і ёсьць справа духоўнай школы. Паважнасьць гэтай справы яснай мусіць быць для кожнага, хто ёй цікавіцца, бо-ж царкоўная справа, як ужо шмат у нас пішацца і пісалася, зрабілася справай, ад вырашэньня якой у пэўнай меры залежыць судзьба нашага адраджэньня. Развязаньне пытаньня аб духоўнай школе робіцца нашай неабходнай патрэбай.

Існуючы стан праваслаўнай духоўнай асьветы ня толькі астаўляе жадаць лепшага, але нават *зьяўляецца папросту немагчымым.* А тым часам замест яго направы мы бачым яго паступовае, можа нават *пляновае* пагоршаньне, асабліва на беларускіх землях.

Пасьля сусветнае вайны, калі заходняя Беларусь апынулася пад Польшчай, узнавіла сваю дзеяльнасьць існаваўшая перад вайной праваслаўная духоўная сэмінарыя ў Вільні. Перад вайной яна мела характар выключна расейскі, такі-ж характар яна часткова захавала і пасьля свайго ўзнаўленьня пад Польшчай. У гэтым можа ня шмат ёсьць дзіўнага, бо перайсьці да выкладаньня ў беларускай мове тады было трудна, ня было беларускіх падручнікаў, ня было багаслоўскай тэрмінолёгіі, што найважней, не хапала беларускіх навуковых сіл. Як ведаем, нават у Віленскай Беларускай Гімназіі ў той час некаторыя прадметы выкладаліся парасейску. Аднак, ня гледзячы на расейскую мову навучаньня можна было спадзявацца паступовай беларусізацыі сэмінарыі: была уведзена беларуская мова, як абавязкавы прадмет і большасьць вучняў сэмінарыі (якіх было ў 1922-м годзе больш як 300) адкрыта прызнавалі сябе беларусамі. І запраўды, расейская мова трывала ў духоўнай сэмінарыі ня доўга; у 1925-м годзе сэмінарыя была зроблена дзяржаўнай і выкладовай мовай зрабілася, наперакор усялякай лёгіцы і справядлівасьці, наперакор гарачым пажаданьням і чаканьням,—мова польская. Беларуская мова асталася, як і раней, толькі як прадмет.

Ня гледзячы на ўсе пратэсты і дамаганьні такі стан пратрываў да апошняе школьнае рэформы.

Перад школьнай рэформай Віленская Дзяржаўная Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя, хоць у найдрабнейшай меры нават не задаваляла нацыянальных патрэб праваслаўнага беларускага насяленьня, была, аднак, суцэльнай духоўнай школай і задаваляла хоць часткова патрэбы чыста рэлігійныя, выпускаючы пастыраў, хоць у большасьці і чужых свайму народу, але больш менш прыгатаваных да сьвяшчэннаслужэньня і вышэйшай багаслоўскай асьветы. Пасьля школьнай рэформы пачынаецца паступовая ліквідацыя духоўнай сэмінарыі. Што год зачыняюцца яе малодшыя клясы і астаецца звычайная клясычная польская гімназія новага тыпу з багаслоўскім ліцэем. У гімназіі гэтай, што праўда, выкладаюцца, як прадметы, беларуская і ц.-славянская мова, але суцэльны характар сярэдняй духоўнай школы гіне.

Нам здаецца, што вышэйшая духоўная ўлада магла-б, каб хацела —захаваць і надалей суцэльны характар духоўнай сэмінарыі, дзеля яе спэцыяльнага назначэньня, але яна гэтага не зрабіла, касуючы сваім нядбальствам, каб не сказаць злой воляй, выпрацаваную вякамі сыстэму духоўнай асьветы і зводзячы яе да звычайнага прафэсіяналь-ліцэю, у якім не ўзгадоўваюцца *духоўныя пастыры,* а звычайныя сьвецкія людзі вучацца *рамяслу сьвяшчэньніка,* як у іншых ліцэях вучацца яны рамяслу тэхніка, вучыцеля, гандляра і г. д.

*Г. Б.*

(Працяг будзе).

## З Шчучынскага пав.

З атрыманай корэспондэнцыі даведваемся, што быццам шчучынскі староста п. Кавальскі забараняе сьвяшчэньнікам навучаць рэлігію ў беларускай мове.

Ці-ж гэта праўда?

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## У Прэзыдыюм Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту ў Вільні

Гэтым паведамляем, што пісьмо Ваше атрымана, але дзеля нястачы месца ў гэтым нумары будзе яно зьмешчана ў наступным — дня 2 мая г. г.

**Рэдакцыя.**

надходзіць. Выб'е гэтая жаданая гадзіна, і зьявіцца сьвятло, якога не пераможа цемра. І вы скінеце з сябе ярмо тугі, гора і галіты, якое гняце вас. Пацьвярджаю вам гэта, і як некалі з вышыняў Голгофы багаслаўляў вас на *сьцяжаніе* душаў вашых, так і цяпер багаслаўляю на новае жыцьцё ў царстве сьвятла, дабра і праўды. Хай ня ўхіляцца сэрцы вашыя ў словы хітрасьці, хай прабудуць яны чыстыя і простыя, як да-сяньня, а слова Маё хай будзе праўда. Мір вам!

Уваскросшы пайшоў далей і сустрэў на шляху Сваім іншых людзей. Тут былі і багацеі, і мíраеды, і жорсткія ўладары, і зладзеі, і душагубы, і двудушнікі, і сьвятошы, і няправедныя судзьдзі. Усе яны ішлі з сэрцамі, напоўненымі прахам, і весела размаўлялі, сустрачаючы не Уваскрасеньне, а блізкую сьвяточную пустату. Але і яны спыніліся ў трывозе, пачуўшы надыход Уваскросшага.

Ён таксама спыніўся перад імі і сказаў:

— Вы — людзі веку гэтага і духам веку свайго кіруецеся. Сьцяганьне і любаўладзтва — вось рухавікі вашых дзеяньняў. Ліха напоўніла ўвесь зьмест вашага жыцьця, але вы гэтак лёгка нясеце цяжар ліха, што ніводзін скрупул вашага сумленьня не здрыгануўся перад будучыняй, якую рыхтуе вам гэты цяжар. Усё вакольнае здаецца вам як-бы пакліканым служыць вам. Але не таму апанавалі вы сусьвет, што дужыя самі па сабе, а таму, што сіла ўнасьледавана вамі ад прэдкаў. З таго часу вы з усіх бакоў абароненыя, і дужыя сьвету лічаць вас вечнымі. З таго часу вы ідзецё з агнём і мечам наперад ды наперад; вы крадзецё і забіваеце, бяскарна зрыгваючы ганьбу на законы божыя і чалавечыя, і дармахваліцеся, што гэткае вось адвеку ўнасьледаванае вамі права. Але кажу вам: прыдзе час, — і недалёка ён, — калі лятуценьні вашыя разьвеюцца ў порах. Слабыя таксама пазнаюць сваю сілу: а вы зразумееце сваю нікчэмнасьць перад гэтаю сілаю. Ці прадбачылі вы калі-нібудзь гэты грозны час? ці трывожыла вас гэтае прадбачаньне за сябе і за дзяцей вашых?

Грэшнікі бязмоўнічалі на гэтае пытаньне. Яны стаялі, спусьціўшы вочы і як-бы чакаючы яшчэ горшага. Тады Уваскросшы казаў далей:

— Але, ў імя Майго Уваскрасеньня, Я і перад вамі адкрываю шлях да збаўленьня. Гэты шлях — суд вашага ўласнага сумленьня. Яно раскрые перад вамі вашае мінулае ўва ўсёй яго нагасьці, яно выкліча цені загубленых вамі і паставіць іх на варце каля прыгалоўяў вашых. Скрыгат зубоўны напоўніць хаты вашыя, жанкі не пазнаюць мужоў, дзеці — бацькоў. Але калі сэрцы вашыя, засохнуць ад жалю і тугі, калі вашае сумленьне перапоўніцца, як чаша, што ня можа ўмясьціць перапаўняючай яе горычы, тады цені загубленых паміраюцца з вамі і адкрыюць вам шлях да збаўленьня. І ня будзе тады ні зладзеяў, ні душагубаў, ні хабарнікаў, ні сьвятошаў, ні несправядлівых уладароў, і ўсе аднолькава ўзьвесяляцца за агульным сталом дому Майго. Дык ідзеце і ведайце, што слова Маё—праўда!

У гэту самую мінуту ўсход зачырванеўся, і ў парадзеўшым змроку лесу паказалася агідная чалавечая туша, што гойдалася на асіне. Галава вісельніка, блізка што адарваная ад тулава, зьвісла ўніз; крукі ўжо выдзяўблі ў яе вочы і выелі шчокі. Само тулава было дзе-ня-дзе аголена ад вопратак і, зьзяючы гнойнымі ранамі, размахвала па ветру рукамі. Стада драпежных птушак круцілася над целам, а больш адважныя бясстрашна вялі далей справу руйнацыі.

Гэта было цела здрадніка, які сам зрабіў суд над сабою.

Усе, што тут стаялі, з жахам і агідаю адвярнуліся ад гэтага відовішча; пагляд Уваскросшага запалаў гневам:

— О, здрадніча! — сказаў Ён: — ты думаў, што вольнаю сьмерцяй ўратаваўся ад душыўшае цябе здрады; ты хутка зразумееў сваю ганьбу і пасьпяшыў скончыць рахункі з нягодным жыцьцём. Праступленьне так ясна выступіла перад табою, што ты з жахам адступіў перад агульнаю пагардаю і лепшаю за яе палічыў згубу душы. „Адзін міг, — сказаў ты сабе, — і душа мая патане ў беспрасьветнай цемры, а сэрца перастане быць даступным дакорам сумленьня“. Але хай ня будзе гэтак! Зыйдзі з дзерава, здраднік, хай вернуцца табе выдзяўбаныя вочы твае, хай затуляцца гнойныя раны, і хай адновіцца ганебны твой твар у тым самым выглядзе, у якім ён быў у тую мінуту, калі ты цалаваў прадаванага табою. Жыві!

Па гэтым слове, на вачох усіх, здраднік зыйшоў з дзерава і ўпаў на зямлю перад Уваскросшым, молячы Яго аб павароце сьмерці.

— Я ўсім паказаў шлях да збаўленьня, — казаў далей Уваскросшы: — але для цябе, здраднік, ён зачынены назаўсёды. Ты пракляты Богам і людзьмі, пракляты на векі вечныя. Ты не забіў друга, што раскрыў перад табою душу, а захапіў яго зьнячэўку і аддаў на казьнь і зьдзек. За гэта я засуджваю цябе на жыцьцё. Ты будзеш хадзіць з места ў места, з вёскі ў вёску і нідзе не знайдзеш страхі, якая прытуліла-б цябе. Ты будзеш стукацца ў дзьверы і ніхто не адчыніць іх табе; ты будзеш маліць аб хлебе — і табе пададуць камень; ты будзешь смагнуць — і табе пададуць судзіну, напоўненую крывёю праданага табой. Ты будзеш плакаць, і сьлёзы твае абернуцца ў ручаі агністыя, будуць паліць твае шчокі і пакрываць іх струпамі. Каменьні, па якіх ты пайдзеш, будуць крычаць: „здраднік, будзь пракляты!“ Людзі на торжышчах расступяцца перад табою, і на ўсіх тварах ты прачытаеш: „здраднік, будзь пракляты!“ Ты будзеш шукаць сьмерці і на сушы, і на водах — і ўсюды сьмерць адвернецца ад цябе і прасычыць: „здраднік, будзь пракляты!“ Мала гэтага: часова лёс зьлітуецца над табою, ты знайдзеш друга і прадасі яго, і гэты друг з глыбіні цямніцы гукне да цябе: „здраднік, будзь пракляты!“ Ты атрымаеш здольнасьць рабіць дабро, але дабро гэтае эдверне душы абдараных табою. „Будзь пракляты, здраднік!—гукнуць яны—будзь пракляты і ты, і ўсе справы твае!“ І будзеш ты хадзіць з веку ў век з бяссонным чарвяком у сэрцы, з загубленаю душою. Жыві, пракляты, і будзь для далейшых пакаленьняў сьведчаньнем тае бясконцае казьні, якое чакае здрада. Устань, вазьмі замест кія дзеравяны сук, на якім ты спадзяваўся знайсьці сьмерць, — і ідзі!

І ледзь замёрла ў паветры слова Уваскросшага, як здраднік устаў з зямлі, узяў свой кій, і хутка шагі яго сьціхлі ў тэй неахопнай, загадкавай далі, дзе яго чакала жыцьцё з веку ў век. І ходзіць ён да—сяньня па зямлі, расьсейваючы смуту, здраду і калатню...



